
IDW
#13 • $3.99 • CVR A
TEENAGE MUTANT NINJA
TURTLES
EASTMAN
WALTZ
KUHN
BY
COMICS
ПАДЛЕТКІ МУТАНТЫ
ЧАРАПАШКІ НІНЗЯ #13 (2011)
ПЕРАКЛАД COMICSBY




...АЛЕ Ж Я ПАПЯРЭДЖВАЎ ЦЯБЕ, ШТО ЛЕПШ НЕ РЫЗЫКАВАЦЬ ГУЛЯЦЬ З МАЙКІ Ў ГЭТУЮ ГУЛЬНЮ. ЦІ ПАСЛУХАЎ ТЫ МЯНЕ? НЕЕЕ. ТАМУ...

ПРАВУЮ НАГУ – НА ТРОХКУТНІК.

SHAPESTER!










WHUMP


ЧУВАК, ТЫ ТАКІ ЖУДАСНЫ! Я ЗРАБІЎ ЦЯБЕ ЎЖО ДВОЙЧЫ!
ТЫ ПРА ШТО? ЯК ТЫ, НАОГУЛ, ВЫРАШАЕШ, ХТО ПЕРАМОГ?


А НА МАЮ ДУМКУ, ПЕРАМАГЛІ МЫ З ЛЕА. САПРАЎДЫ, БРАТ?
ЗГОДЗЕН.
А ТЫ НЕ ЖАРТАВАЎ, МАЙКІ. ГЭТА САПРАЎДЫ БЫЛА «КЛАСІКА».


ЯК СМЕШНА, МІСТАР ТАЙ-ДЗЫ. ПА МЕНШАЙ МЕРЫ, ГЭТА ПАЦЕШНЕЙ, ЧЫМ СТАЯЦЬ НА АДНОЙ НАЗЕ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН ЗАПАР, БЫЦЦАМ НЕЙКІ БУСЕЛ.
МАЙСТАР СПЛІНТЭР З ТАБОЙ НЕ ЗГАДЗІЎСЯ Б.


ДАРЭЧЫ, НАКОНТ МАЙСТРА...


...ШТО ГЭТА З ІМ У АПОШКНІ ЧАС?


ЁН ДЗІЎНА СЯБЕ ПАВОДЗІЦЬ З ТЫХ ЧАСОЎ, ЯК МЫ ВЯРНУЛІСЯ ПАСЛЯ БОЙКІ З ШРЭДАРАМ І «ФУТ». ВІДАЦЬ, ЯНЫ ЎСЯМУ ПРЫЧЫНА.
ТАК, АЛЕ Ж МЫ НАДЗЕРЛІ ІМ АЗАДКІ, ТАК?
НЕ, МЫ ЗБЕГЛІ АДТУЛЬ ПА-ДОБРАМУ. ГЭТА РОЗНЫЯ РЭЧЫ, МАЙКІ. МЫ ПАБІЛІ ШРЭДАРА, АЛЕ НЕ ПЕРАМАГЛІ ЯГО.


Я ХАЦЕЎ ПАДБАДЗЁРЫЦЬ СЭНСЭЯ І ПАКЛІКАЎ ЯГО ЗГУЛЯЦЬ З НАМІ Ў ГЭТУЮ ГУЛЬНЮ, АЛЕ ЁН МНЕ ЛЕДЗЬ ГАЛАВУ НЕ АДКУСІЎ.
НЕ ПРЫМАЙ ГЭТА НА СВОЙ РАХУНАК, БРАТКА. ПРОСТА ЯМУ ТРЭБА ШМАТЛІКАЕ АБМЕРКАВАЦЬ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЁН ДАВЕДАЎСЯ, ШТО АРОКУ САКІ ВЯРНУЎСЯ. ДЫ Й НАМ БЫ НЕ ПАШКОДЗІЛА.


ЗГОДЗЕН. АЛЕ Я РАДЫ, ШТО МЫ ЗДОЛЕЛІ РАТАВАЦЬ БАЦЬКУ, НАВАТ КАЛІ ЁН І ТРОШКІ НЕ Ў САБЕ. Я ХВАЛЯВАЎСЯ, ШТО МЫ ЯГО НАОГУЛ НЕ ЗНОЙДЗЕМ.


ЯМУ ТОЛЬКО ТРЭБА ТРОШКІ СПАКОЮ, МАЙК. ГЭТАЯ НЕСПАДЗЯВАНКА З «ФУТ» ЯШЧЭ СКОНЧЫЛАСЯ. ШРЭДАР НЕ ПАКІНЕ НАС У СУПАКОЮ, БО ЗАРАЗ ЁН ВЕДАЕ, ХТО МЫ. НАМ ТРЭБА БЫЦЬ ГАТОВЫМІ ДА ЎСЯГО.
ВЕДАЮ, ЛЕА. Я РАЗУМЕЮ, ПРА ШТО ТЫ. АЛЕ МЫ Ж НЕ МОЖАМ УВЕСЬ ЧАС НАГАДВАЦЬ АДЗІН АДНАМУ ПРА ГЭТА?
НУ, НА МАЮ ДУМКУ, КАЛІ МЫ ХОЧАМ ВЫЖЫЦЬ, ТАДЫ ЛЕПШ НАГАДВАЦЬ ПРА ГЭТА АДЗІН АДНАМУ ЯК МАГА ЧАСЦЕЙ.


АДНАК, ВЕДАЕШ ШТО? ДАВАЙ ПАКУЛЬ ЗАБУДЗЕМ ПРА ГЭТА. ЗАРАЗ ПАКЛАПАЦІСЯ ПРА ІНШАЕ... БО Я ЗБІРАЮСЯ НАДЗЕРЦІ ТВОЙ АЗАДАК У ТВАЁЙ ГУЛЬНЕ. ГАТОВЫ?
ТАК?! КАНЕШНЕ, ГАТОВЫ, БРАТ!
А Я ТА ЛІЧЫЎ, ТЫ НАЙРАЗУМНЕЙШЫ СЯРОД НАС, ЛЕА.
НЕ, САМЫ РАЗУМНЫ – Я!


ЯК СКАЖАШ, ДОНІ!

СТАРАЯ НЕБЯСПЕКА – СТАРЫЯ ВАЯРЫ – ЦЯПЕР СТАЛІ НОВЫМІ.

І, ПАКУЛЬ МАЕ СЫНЫ ГУЛЯЮЦЬ, ПАКУЛЬ ЯНЫ АТРЫМЛІВАЮЦЬ АСАЛОДУ АД ГЭТЫХ ШЧАСЛІВЫХ МОМАНТАЎ НІБЫ ДЗЕЦІ, Я СПРАБУЮ ЗМАГАЦЦА З ГРУЗАМ, З ЯКІМ, ЯК Я ЛІЧЫЎ, Я ЗЛАДЗІЎ ЯШЧЭ Ў МІНУЛЫМ ЖЫЦЦІ.

ЯНЫ НЕ ГАТОВЫЯ ДА ТАГО, ШТО АДБУДЗЕЦЦА – Я ГЭТА ВЕДАЮ. ТАК САМА Я ВЕДАЮ І ТОЕ, ШТО МНЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ПАДРЫХТАВАЦЬ ІХ ДА ДОЎГАГА КАНФЛІКТУ, ЯКІ ЧАКАЕ ІХ НАПЕРАДЗЕ – І ДА ЗМРОЧНАЙ РЭАЛЬНАСЦІ, ЯКАЕ ІДЗЕ ПОРУЧ З ЛЮБОЙ ВАЙНОЙ.

АДНАК ЦІ ГАТОВЫ ДА ГЭТАГА Я САМ? ЦІ ГАТОВЫ Я ВЕСЦІ ІХ ПА ШЛЯХУ, НА ЯКІМ ЧАСАМ НЕ АДРОЗНІШ, ШТО ПРАВІЛЬНА, А ШТО – НЕ?

Я ЎПЭЎНЕНЫ ТОЛЬКІ Ў АДНЫМ: НАПРОСТ ВЫКЛІКАЦЬ ШРЭДАРА НА ПАЯДЫНАК – ЗНАЧЫЦЬ, ЗГАДЗІЦЦА НА НЕМІНУЛУЮ СМЕРЦЬ. І ЁН АДНОЙЧЫ НАПАДЗЕ НА НАС, ПРЫЧЫМ ЗРОБІЦЬ ГЭТА З-ЗА СПІНЫ, ТАДЫ, КАЛІ МЫ МЕНШ ЗА ЎСЁ БУДЗЕМ ЯГО ЧАКАЦЬ.

МЫ НЕ МОЖАМ ПРАДБАЧЫЦЬ, ЯКАЯ НЕБЯСПЕКА ЧАКАЕ НАС У БУДУЧЫНІ.

WHAMP

FWUMP




ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?!

МАЙМУ БАЦЬКУ... НЕ СПАДАБАЛАСЯ, ЯК Я З ІМ РАЗМАЎЛЯЎ*.

ГЭТА НОРМА.

*ГЛЯДЗІ ЧАРАПАШКІ-НІНЗЯ: КЕЙСІ ДЖОНС #6










СЮРПРЫЗ! Я ПРЫНЕСЛА ВАМ ПАДАРУНКІ – У У ГЛАЗУРЫ І З ДЖЭМАМ!

ТОЛЬКІ НЕ СЯРДУЙЦЕ НА МЯНЕ, МІС А'НІЛ, АЛЕ МНЕ ЗАРАЗ НЕ ДА ГЭТАГА.
Я... МММ... ДОБРА.

БОЖА, ШТО ЗА МІТУСНЯ?


БОЖА, КЕЁСІ...

«...НЕБАРАКА, ТВОЙ ТВАР!»

ГАЛК!

KRAK

WHUMP

ХІІІІІЯ!












ЯШЧЭ РАЗ.


ШТО, ПРАБАЧ?


Я ШТО, НЕДАСТАТКОВА ГРОМКА СКАЗАЎ, УНУЧКА? ТЫ НЕ ЧУЛА МАЙГО ЗАГАДУ? МНЕ ПАЎТАРЫЦЬ?


ЯШЧЭ РАЗ!


АЛЕ... ГЭТА ЎЖО ТРЭЦЯЯ КАМАНДА, ЯКУЮ Я СЁННЯ ПЕРАМАГЛА, МАЙСТАР.
НЯЎЖО ТЫ ЎСЁ ЯШЧЭ ЛІЧЫШ, ШТО Я НЕ ГАТОВА?


НЕ. ГЭТА ЎЖО ТРЭЦІ БОЙ, ЯКІМ ТЫ МЯНЕ РАСЧАРАВАЛА. АДЗІНАЕ, ШТО ТЫ СЁННЯ ДАКАЗАЛА – ГЭТА ТОЕ, ШТО ТЫ ПАКУЛЬ ЗАНАДТА НЯЗГРАБНАЯ, МАРУДЛІВАЯ, СЛАБАЯ І АБСАЛЮТНА НЕ ГАТОВАЯ СТАЦЬ МАІМ НАМЕСНІКАМ.


Я ЦЯБЕ ПАВАЖАЮ, ДЗЯДУЛЯ, АДНАК Я З ТАБОЙ НЕ ЗГОДНА.
Я БЫЛА СТВОРАНА, КАБ КІРАВАЦЬ КЛАНАМ «ФУТ» І РАБІЛА ГЭТА ГОДНА... ВЯЦЯГНУЎШЫ ІХ З ЖАЛАСНАГА БЮРАКРАТЫЧНАГА БАЛОТА, У ЯКОЕ ІХ ЗАГНАЎ ТВОЙ БАЦЬКА, І ЗНОЎ ПЕРАТВАРЫЛА ІХ У АРМІЮ СМЯРОТНЫХ ВАЯРОЎ, ЯКІМІ ЯНЫ І ПАВІННЫ БЫЦЬ.


FIRST N
FNB
BANK
«З САМАГА ПАЧАТКУ ГЭТАЙ ВАЙНЫ Я ЗАЎСЁДЫ БЫЛА Ў ЦЭНТРЫ ЎВАГІ, ЗАЎСЁДЫ САЧЫЛА ЗА ТЫМ, КАБ У НАС БЫЎ СТАЛЫ ДОСТУП ДА РЭСУРСАЎ, НЕАБХОДНЫХ ДЛЯ ЎЗМАЦНЕННЯ АРМІІ...»


«...А ПОТЫМ, КАБ УСЕ НАШЫЯ АПЕРАЦЫІ ЗАСТАВАЛІСЯ Ў САКРЭЦЕ».


«Я КІДАЛА НАШЫЯ ВОЙСКІ СУПРАЦЬ ТЫХ, ХТО СМЕЎ ІСЦІ СУПРАЦЬ НАС».


«ПАЧЫНАЮЧЫ З СМЯРДЗЮЧЫХ ПАЦУКОЎ, ЯКІЯ ПАВЫЛАЗІЛІ СА СВАІХ НОР...»


«...КАНЧАЮЧЫ ПАЛІТЫЧНЫМІ ЛІДАРАМІ...»


«...НІХТО НЕ МОГ СУПРАЦЬСТАЯЦЬ НАМ».


ГЭТА ЎСЁ ЗРАБІЛА Я. І З МЁРТВЫХ АДРАДЗІЛА ЦЯБЕ ТАКСАМА Я, ДЗЯДУЛЯ. КАЛІ Б НЕ Я, ТЫ Б НАОГУЛ ЗАРАЗ ТУТ НЕ СТАЯЎ, КІДАЮЧЫСЯ МАРАЛЛЮ. ГЭТА РАШЭННЕ БЫЛО ПРЫНЯТА МНОЮ ДЗЕЛЯ ЎГОДЫ КЛАНА, ЯК І ПАТРЭБНА РАБІЦЬ САПРАЎДНАМУ ЛІДАРУ.
Я ГАТОВА.


КАРАІ, ТОЛЬКІ ТАМУ, ШТО ТЫ МАЯ КРОЎ І ЦЕЛА, Я ЯШЧЭ ДАГЭТУЛЬ НЕ СТУКНУЎ ЦЯБЕ.
КАЖАШ, ШТО ГАТОВА, НЕЦЯРПЛІВАЯ ТЫ ДЗЯЎЧЫНКА? ТАДЫ ЗБІРАЙ УСЁ СВАЁ ВОЙСКА. ПАСПРАБУЙ ПЕРАМАГЧЫ МЯНЕ...
...І ДАКАЖЫ СВАЮ ПАДРЫХТАВАНАСЦЬ.

ТЫ, ТЫ... І ТЫ.
СА МНОЙ...
...У АТАКУ!
НЯЗГРАБНАЯ.
МАРУДНАЯ.
СЛАБАЯ.




НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ТВАЁ НАХАБСТВА, ТЫ ВЕЛЬМІ ЗДОЛЬНЫ ВАЯР, КАРАІ, І ВЫДАТНЫ НІНЗЯ. З ГЭТЫМ Я СПРАЧАЦЦА НЕ БУДУ.


АЛЕ ТЫ БОЛЬШ НЕ ЛІДАР КЛАНА «ФУТ»... І, ШЧЫРА КАЖУЧЫ, НІКОЛІ ІМ НЕ З'ЯЎЛЯЛАСЯ.


ТЫ – ЖАЎНЕР, А НЕ ЛІДАР, І З ТВАЙГО БОКУ ВЕЛЬМІ ГЛУПА СПРАБАВАЦЬ ДАКАЗАЦЬ АДВАРОТНАЕ. САПРАЎДНЫ ЛІДАР ТУТ Я...


...І ПРЫЙШОЎ ЧАС ЗНАЙСЦІ БОЛЬШ ЗДОЛЬНАГА НАМЕСНІКА.


ВОСЬ ТАК – ЛЁД ПАВІНЕН ЗМЕНЬШЫЦЬ БОЛЬ. БЫЛО Б, КАНАШНЕ, ФАЙНА, КАЛІ Б Я ХОЦЬ РАЗ У ЖЫЦЦІ ПРЫЙШЛА ДА ВАС У ГОСЦІ І НЕ ЗНАЙШЛА КАГОСЬЦІ ПАБІТАГА.
ДЗЯКУЙ, ЭЙПРЫЛ. БЛІН, ЯК ЖА МНЕ НЯЗРУЧНА.
УСЁ ДОБРА. З ТАБОЙ СЯБРЫ.

АГА, І, ЯК ТВОЙ СЯБАР, КЕЙСІ, Я Б ТАБЕ ПАРАІЎ НЕ ЗДЫМАЦЬ ХАКЕЙНУЮ МАСКУ НАВАТ ДОМА.
ХЕХ, ПАСПРАБУЮ Ў НАСТУПНЫ РАЗ ТАК І ЗРАБІЦЬ, МАЙКІ.

МАТАЦЫК-ЛЕТНЫ ШЛЕМ ТАКСАМА НЕ ПАШКОДЗІЦЬ.
НАСТУПНАГА РАЗУ МОЖА І НЕ БЫЦЬ, КАЛІ БАЦЬКА НЕ СПЫНІЦЬ РАФА ПЕРАД ТЫМ, ЯК ТОЙ ПАКРЭМСІЦЬ ЯГО НА КАВАЛКІ.
СЭНСЭЙ ПАКЛАПОЦІЦЦА ПРА РАФА, НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ.

ЛІЧЫШ, ГЭТА НЕ НАСТОЛЬКІ ВЯЛІКАЯ ПРАБЛЕМА, КАБ ЯЕ ТРЭБА БЫЛО АБМЕРКАВАЦЬ СА МНОЙ?
НУ, ТАКІЯ РЭЧЫ ЗВЫЧАЙНА НЕ АБМЯРКОЎВАЮЦЬ ЗА КУБКАМ КАВЫ І ПАМПУШКАМІ. ЯК ТЫ САБЕ ГЭТА ЎЯЎЛЯЕШ? «ПРЫВІТАННЕ, Я КЕЙСІ... Я ГУЛЯЮ Ў ХАКЕЙ І ЧАСАМ АТРЫМЛІВАЮ КУХТАЛІ АД СВАЙГО П'ЯНОГА БАЦЬКІ»? ГЭТА ЗАНАДТА АСАБІСТАЕ.
НУ, Я Ж РАСКАЗАЛА ТАБЕ ПРА ПРЫСТУП МАЙГО БАЦЬКІ, А ГЭТА ТАКСАМА АСАБІСТАЕ. ЛІЧЫЛА, МЫ МОЖАМ АДЗІН АДНАМУ ДАВЯРАЦЬ.

НЕ, ТЫ... ТЫ ПРАВА, ЭЙПРЫЛ – Я ПАВІНЕН БЫЎ РАСКАЗАЦЬ. Я...
...Я БЫЎ НЕПРАВЫ.
ТАК. НЕПРАВЫ.

ТЫ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ТАБЕ НЕ ПАТРЭБНЫ ДОКТАР, СЯБРА?
НЕА, УСЁ ДОБРА, ЛЕА. ДЗЯКУЙ.
АДНАК Я Б НЕ АДМОВІЎСЯ АД АСПІРЫНУ, КАЛІ ЁСЦЬ...

«...ЖАХ, У МЯНЕ НІКОЛІ Ў ЖЫЦЦІ ГАЛАВА ТАК НЕ БАЛЕЛА».

І НІЯКІ, НАВАТ САМЫ ЖУДАСНЫ ПАХМЕЛ, У ПАРАЎНАННЕ З ГЭТЫМ НЕ ЙДЗЕ.

У МЯНЕ Ў ЖЫВАЦЕ БЫЦЦАМ ГРОБАНАЯ ЦЭНТРЫФУГА.

А ПРА ГАЛАВУ Я НАОГУЛ МАЎЧУ.

ПАЎ ЖЫЦЦЯ ЗА АСПІРЫН.

ЯКОГА Д'ЯБЛА КРЭНГ СА МНОЙ ЗРАБІЎ...

...?


КУДЫ Я, ХАЛЕРА БЯРЫ, ТРАПІЎ?

І ШТО ГЭТА ЗА ПРЫЛАДА?


CLICK





У ЧЫМ СПРАВА?
СЯРЖАНТ ГРАНІТАР ЗАГАДАЎ УСІМ НЕАДКЛАДНА ЗАНЯЦЬ СВАІ ПАЗІЦЫІ.
НАПЭЎНА, ЗНОЎ НЕЙКАЯ ПРАВЕРКА.

ШТО Б ГЭТА НІ БЫЛО, НАМ ЛЕПШ ПАСПЯШАЦЦА, ІНАЧАЙ НАМ ПРЫЙДЗЕЦЦА ЧЫСЦІЦЬ ПРЫБЯРАЛЬНІ УВЕСЬ МЕСЯЦ.

CHK

ТАК, ПАГЛЯДЗІМ, ШТО ТАМ ЗА ДЗВЯРЫМА НУМАР ДВА.

ХМ.

А ВОСЬ ГЭТА ЦІКАВА.


ВЕЛЬМІ, ВЕЛЬМІ ЦІКАВА.


САРДЭЧНА ЗАПРАШАЮ НА ВОСТРАЎ БЁРНАЎ, СТОКМАН...
ХТО?...


...БАЧУ ТЫ ЎЖО ПАЗНАЁМІЎСЯ З МАІМІ СВАЯКАМІ.
КРЭНГ!
ТАК. І, ЯК ТЫ ЎЖО ЗРАЗУМЕЎ, НАМ ПРЫЙДЗЕЦЦА ШМАТ ЧАГО АБМЕРКАВАЦЬ.


ТАБЕ...

...І МНЕ.










І Я ЧАКАЎ ГЭТАГА МО-МАНТУ.

KRSSH


ГРАХ!


WHAP
ХЬЮП!


ОХ!
FWUMP


KRAK


Я Ж КАЗАЎ, ГАЎНЮК, ТАБЕ КАНЕЦ.
РАФАЭЛЬ... НЕ!









ДАЗВОЛЬ ПАКАЗАЦЬ ТАБЕ САПРАЎДНЫ ШЛЯХ НІНЗЯ.

ПРАЦЯГ БУДЗЕ...

ЧАРАПАШКІ-НІНЗЯ #13

перакладзена BY comics